Год II. Аўторак 7 сакавіка 1922 г. № 2.

# РОДНАЯ СТРАХА

АДРЕС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ: Вільня, Вул. Міцкевіча (Георгіеўскі) 33, кв. 4. Рэдакцыя адчынена што дня, апрача сьвят ад 10 да 12.

Цана нумару 20 марок. Падпіска на 1 месяц 80 м., на 3 месяцы 240 мар.

ЦАНА АБВЕСТАК: За 1 радок 1 стр.—30 мар. На апошняй—15. Для шукаючых працы на 25 проц. таней.

## Антон Лявіцкі.

### (Ядвігін Ш.)

† 24 лютага 1922 г.

24 лютага г. г. на 56 годзе жыцьця памёр ад сухот у Віленскай Літоўскай палікліініцы наш дарагі пісьменнік Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі).

Цела яго пахавалі на могілках Роса.

Усё беларускае грамадзянства, вучні гімназіі, студэнты і ўсе другія арганізацыі праводзілі нябошчыка.

Быў на похаранах, прыехаўшы з Варшавы, дзе ён вырваўся проста з бальнічнага ложка—сын нябошчыка Леанард Лявіцкі.

На магілу ўскладзена шмат вянкоў.

Апусьціўшы труну ў дол—гаварылі жалобныя прамовы.

Плакалі таварышы яго і прыяцелі.

Заплакаў ксёндз адпраўляючы малітвы.

Заплакалі сьпевакі — пяючы „Анёл Панскі".

Бо вялікую страту маюць яны, апушчаючы ў далавіну свайго пісьменніка Ядвігіна Ш.

*„Бываюць раны большыя і меншыя. Меншыя—гояцца, і па іх знаку няма. Большыя—гояцца, але па іх застаюцца рубцы. — Гэтак на целі.*

*Бываюць раны большыя і меншыя. Меншыя—гояцца; па іх астаюцца рубцы. Большыя—заўсёды крывавяцца.—Гэтак на сэрцы.*

*Бываюць раны большыя і меншыя. Меншыя—заўсёды крывавяцца. Большыя—залечывае толькі... сьмерць.—Гэтак на душы."*

Гэтак пісаў ты, наш дарагі брат, наш родны пісьменнік, Ядвігін Ш.

Гэтак напісаў ты тагды, калі скончыў самагубствам жыўшы згнанікам на чужыне наш слаўны, малады поўны сілаў і веры ў лепшую будучыну беларускага народу пісьменнік С. Палуян.

Адчуўшы ўсю сілу, усё жудасна-вялізарнае уражэньне гэтых слоў, я, над тваей магілай, дарагі брат, не находжу слоў сваіх, каб выказаць той боль, жаль і страту, якую прынёс ты для Беларусі сваей сьмерцю, бо нельга мацней гэтага выказаць, як тваімі славамі:

„Малыя раны на душы вечна крывавяцца, а вялікія залечывае толькі сьмерць"!!!

Так. Твая сьмерць для Беларусі — вялікая рана і загоіцца яна толькі тагды, калі ня будзе Беларусі...

Твае прыгожыя творы былі чарадзейным бальзамам для падупаўшых беларускіх душ,—раз прачытаўшы твае апавяданьне ці які абразок—гэтай душэ рабілася лёгка і яна ўзнасілася ў высь і ўжо верыла ў сьвятасьць права на сваё людзкае існаваньне паміж другіх народаў Божага сьвету.

Ты проста пісаў, дарагі наш, слаўны піанэр нашага простага слова!

Прачытаўшы тваю „Бярозку" — заплача ня толькі сялянская дзяўчына, але заплача і дзіця малое; прачытаўшы „Дуба Дзядулю"—усякі грамадзянін-беларус: ці то селянін, ці рабочы, ці пісар ці вучыцель,—зразумеюць, аб чым гэта шаптаў прадвечны дуб заснуўшаму селяніну,—бо ты проста, надта проста, выказваў свае думы, Ядвігін Ш.

Ва ўсей тваей натуры, у манерах гаварыць з людзьмі—ты быў заўсёды просты. Хоць паходзіш ты з шляхоцкага роду, але ўсе ваколічныя твае сяляне любілі заўсёды цябе, як свайго брата, ты быў першым у іх сямьі і аб табе сам народ з вуснаў у вусны пераказваў на ўсю ваколіцу, а разыходзілася на ўсю Беларусь — які ты быў чалавек.

Ад студэнцкіх часоў ты працаваў на ніве Беларускай. У Маскоўскім унівэрсытэце у тых



1880 гадох, ты ўжо закладаў беларускія студэнцкія гурткі не баючыся адзіночак тагачаснай Бутырскай турмы, ў якой прышлося табе сядзець. Ты ўжо тагды пачаў тлумачыць на беларускую мову кніжкі (як напр: „Сыгнал“ Гаршына) і пісаць свае ўласныя творы. Седзячы ў сябе на вёсцы у Карпілаўцы Вялейскага павету, ты працаваў у народзе да часу першай беларускай вясновай ластаўкі—першай беларускай газэты „Наша Доля“, што паказалася ў сьвет толькі ў 1906 годзе. Далей, не пакладаючы рук, ты супрацоўнічэў ва ўсіх тагачасных беларускіх газэтах і журналах, якія толькі выходзілі ў Вільні, Менску і Пецярбурзі—аж да апошніх дзён твайго жыцьця.

І нават паміраючы—ты шкадаваў толькі двух рэчаў:

Што недаждаўся ў бачыць Беларусь шчасьліваю і роўнаю з другімі суседнімі народамі

І што няможаш пражыць яшчэ хоць два тыдні, каб напісаць сваю апошнюю рэч, каб сказаць свае апошняе слова.

Так. Памёр ты наш дарагі таварыш і брат...

Сьпі! Сьпі спакойна!..

Скора прыйдзе вясна, а з ёю прыляцяць і птушкі з выраю і зашчабечуць над тваей магілкай.. Запяюць салаўі...

На вясну, тваю могілку дзяўчына беларуская абложыць мурожнікам і прыбярэ кветкамі.

А мо незадоўга прыйдзе і другая вясна, якая, прынясе для нас і тое, чаго ты не даждаўся пры жыцьці ўбачыць,—тагды мы ўсе прыйдзем да цябе на магілу, каб заплакаць над ратаём, што гараў і сеяў, а ўсходаў ня прыждаў.

**Язэп Л.**

---

# Брат памірае.

(Ахфярую Ядвігіну Ш.)

У бальніцы, у куточку, здалёк ад другіх, ляжыць на жалезным ложку немалады ўжо чалавек.

З пад коўдра відаць галаву і рукі хворага. Скура жоўтая -- жоўтая, як воск ды з сінім адценем — аблегае косьці. Падаўгаваты твар яго яшчэ даўжэйшым робіцца ад клінаватай бародкі, а рукі выглядаюць доўгімі-доўгімі, бо яны такія цененькія, як ляшчыновыя дубцы... Вусны яго саўсім сінія, а вочы становяцца пад ледзь адкрытымі верхнімі павекамі і сьвецяць бельмамі.

Чалавек гэты памірае.

Мы прыйшлі да яго. Стаімо над яго ложкам.

Паволі парушыў ён галавою, падняў вышэй павекі, глянуў на нас і ледзь чутна шапнуў:

— Што чуваць?

— Нічога, дзядзенька, ўсё добра — кажам.

— Не, ня добра, — перацінаючы дух пярэчыў ён, — я так і спадзяваўся, што справа аўтаноміі праваліцца...

— Дык гэта, мо і лепей, — пацешаем мы...

— Мо і лепей, але я, хацеў, бачыць пры сваім жыцьці хоць...

Недагаварыў ён; галава схілілася, вочы падвярнуліся зноў пад павекі, грудзі закалыхаліся мацней...

Божа Вялікі! — Ты творыш незямныя душы!

Дарагі наш таварыш! — Ты адходзячы да Бога думаеш аб нашай, мо дробнай і малазначнай няўдачы!

Так. Заўсёды, ад юнацкіх студэнцкіх гадоў ты жыў думкаю аб сваім народзе да сягоньняшніх дзён тваей старасьці. Мо і даўжэй пажыў-бы, але нялёгкае было жыцьцё тваё, жыцьцё нэрвовага і няупыннага працаўніка.

Калі я толькі не спатыкаўся з табою—ты заўсёды гаварыў аб нашай супольнай справе. Заўсёды, як мы працавалі разам — ты ні на хвіліну не адрываўся ад неўдзячнай работы! І праца твая, твае вынашаныя ў любячым сэрцы творы — заўсёды толькі былі акрыляны адным арэолам:

«Дарагая, Ясная, Родная Белая Русь.»

Ты слаўны паэт наш і пісьменнік!

І цяпер, калі істота твая падтрымліваецца, штучным уліваньнем пад скуру лекарстваў, калі будучы прытомным ты добра ведаеш, што выкашляў ужо астаткі сваіх сухотніцкіх лёгкіх; калі табе застаецца жыць колькі дзён, а мо й гадзін— ты ня пытаеш у першую чаргу што чуваць аб тваей радні, аб дачцэ, аб сыну, аб старушцэ жонцы, а ў галаве табе аўтаномія!

Уміраючы ты бачыш перад вачыма неразлучную, вечна быўшую каля цябе «Родную, Дарагую, Ясную Белую Русь.»

Яна твая.

І ты яе.

А разам і твае дзеці і твая старушка—жонка... Гэта адна сямья... І мы... І мы з табою... Усе...

Да грудзей маіх падступіў клумок, пачуцьці зблуталіся, замітусіліся нявыразнымі абразамі, на вочы навярнуліся сьлёзы.

— І гэты чалавек памірае—сказаў я сабе.

Падыйшоў, пацалаваў яго ў руку і выйшаў.

У карыдоры бальніцы, проці дзьвярэй нейкай другой палаты, стаяла маленькая дзяўчынка і плакала і галасіла:

— Ен памрэ! Ен памрэ!

— Хто? — пытаю ў дзіцяці.

— Мой родны брат, добры, дарагі брат мой, — адказало дзіця.

— Так, — падумаў я выходзячы на вуліцу, — памірае родны брат мой... наш,—слаўны, дарагі брат! Але пакідае ён тут не адну сястру, катора ра па ім заплача, а ўсіх нас, у кім толькі бьецца беларускае сэрца і ўсе мы разам горка заплачам над утрачаным дарагім і слаўным братам.

**Язэп Ліліпаў.**

Вільня, 21. II. 22 г.

# Справа Віленшчыны і Віленскі Сойм.

Пасьля вынясеньня пастановы аб далучэньні Віленшчыны да Польшчы, Віленскі Сойм заняўся апрацоўкай дадатковай рэзалюцыі да гэнай пастановы.

Справа ў тым, што пастанова аб далучэньні Віленшчыны да Польшчы нічога не гаварыла аб тым, ці злучыўшыся з Польшчаю Віленшчына хоча устроіць свае далейшае жыцьцё на асновах аўтаноміі, ці зноў увясьці ў сябе толькі тыя установы, якія будуць у іншых частках Польшчы.

Пасьля доўгай гутаркі, Віленскі Сойм справу вырашыў так, што для Віленшчыны аўтаноміі ніякай ня трэба.

За гэткае вырашэньне стаялі дэлегаты, якія вайшлі ад Польскага цэнтральнага выбарчага камітэту і ад Радаў Людовых,. Рэшта дэлегатаў стаялі за аўтаномію, але іх была меншасьць.

Далей Віленскі Сойм радзіўся аб тым, якім парадкам Польскі Урад павінен прыняць уладу над Віленшчынай — ад улады Сярэдняй Літвы. Пасьля гутарак і спрэчак парашылі, што трэба паслаць у Варшаву дэлегацыю, якая ад імя Віленшчыны афіцыяльна заявіць Польскаму Ураду аб волі Віленскага народу і падпіша акт злучэньня з Польшчай. Віленскі Сойм выбраў 20 дэлегатаў. 2 сакавіка, дэлегаты гэныя, былі ў Варшаве і меліся падпісаць акт злучэньня. У Варшаве, тым часам, Польскі Урад, супольна з прадстаўнікамі Варшаўскага Сойму радзіўся аб тым, на якіх асновах павінна далучыцца Віленшчына. Сталі на тым, што для Віленшчыны, Польскі Урад, лічучыся з рознымі асаблівасьцямі Віленшчыны, апрацуе спэцыяльны „Статут Зямлі Віленскай". Статут гэны падасьць на ўцьвярджэньне Варшаўскага Сойму.

Вось, 2 сакавіка, калі дэлегаты Віленскага Сойму прыехалі ў Варшаву, было склікана урачыстае пасяджэньне Польскай Рады міністраў на якім, з аднаго боку, міністрамі ад імя Польшчы і, з другога боку, дэлегатамі Віленскага Сойму—ад імя Віленшчыны быў падпісаны акт злучэньня Віленскай зямлі з Рэчпаспалітай Польскай.

Але, калі прышлося да подпісу гэнага акту, то выйшла так, што падпісалі яго ўсе Польскія міністры і толькі 10 дэлегатаў Віленскага Сойму, а 10 апошніх дэлегатаў Віленскага Сойму, акту гэнага падпісаць не захацелі, не згаджаючыся з 3-ім артыкулам гэнага акту, у якім сказана, што Сойм Варшаўскі апрацуе „Статут Зямлі Віленскай".

Гэныя дзесяць дэлегатаў, што адмовіліся падпісаць акт, у гэным „Статуце Зямлі Віленскай" убачылі пагрозу аўтаноміі, якую яны лічаць, для незразумелых прычынаў, шкоднай для нашага краю.

Вось і выйшла, што акт гэны, які мусіў быць падпісаны, хаця-б большасьцю дэлегатаў Віленскага Сойму, мае толькі падпіс паловы дэлегатаў і дзеля гэтага, ня мае поўнай моцы.

Аб гэным і заявіў старшыня польскіх міністраў, дадаўшы што ў гэткай форме перашле яго на разгляд Варшаўскага Сойму.

Аб усім гэным у Вільні мы даведаліся толькі у пятніцу. Віленскія вечаровыя газэты у пятніцу памясьцілі весткі, аб спыненьні перэгавораў Віленскай дэлегацыі з Польскім урадам і аб тым што ўся дэлегацыя варочаецца ў Вільню.

Трэба ведаць, што апрача 20 дэлегатаў, у суботу меліся паехаць у Варшаву ўсе рэшта паслоў Віленскага Сойму, дзе прыгатаўлялася вялікая урачыстасьць з прычыны падпісаньня Акту злучэньня. Тым часам, з Варшавы паляцелі у Вільню тэлеграмы, ад дэлегатаў не падпісаўшых акту, што ехаць няма па што...

Да апошняга часу, мы ня ведаем, як аканчацельна вырашыцца справа ў Варшаве, але ёсьць чуткі, што ў пятніцу ў начы, рэшта паслоў Віленскага Сойму, такі выехала у Варшаву.

Гэта дае надзею, што Віленская дэлегацыя з Польскім урадам такі дагаварылася.

Не захацелі падпісаць акту дэлегаты соймавай правіцы, а таксама і двох з Радаў Людовых: Яхевіч і Швабовіч.

Дзіўныя рэчы робяцца на сьвеце. Усяго можна было чакаць, але таго, каб Віленскі Сойм, прызнаўшы над сабой вярхоўную уладу Варшаўскага Сойму, ды ня мог дагаварыцца з польскім урадам, які апіраецца на большасьць Варшаўскага Сойму,—гэтага, праўду кажучы, спадзевацца было нельга.

Яшчэ болей дзіўна гэта, што як раз не хацелі падпісаць акту прапанаванага польскім урадам тыя самыя людзі, якія найбольш у Сойме гаварылі аб сваей польскасьці.

Найбліжэйшыя дні кінуць нам сьвет на усю гэную справу і тады мы напішам аб ёй ізноў.

С. — К.

---

# Аб формах дзяржаунасьці.

II.

(Гл. № 1).

Поўная манархія, манархія канстытуцыйная і рэспубліка,—вось тры глаўныя тыпы дзяржаваў, якія мы спатыкаем на сьвеце.

З таго, што мы казалі раней, відаць, што ў абсалютнай манархіі народ саўсім спыняны ад упраўленьня дзяржавай, у канстуцыйнай манархіі, уплыў народу на ўпраўленьне дзяржавай можа быць ужо вельмі вялікі і ў рэспубліках—дзяржавай правіць толькі народ.

Цяпер калі мы запытаем, якая-ж форма дзяржаўнасьці найбольш дае праваў народу і найбольш забязпечае поўнае разьвіцьце яго духоўных і матэрыяльных сілаў, то адказ будзе адзін—рэспубліка. Бо ці можа быць гутарка аб якіх-небудзь правах для народу ў абсалютнай манархіі, найвышэйшая ўлада ў каторай знаходзіцца ў руках аднаго чалавека, які з'яўляецца панам над усім народам, а народ—падданымі яго?

Такі манарх гэтулькі дбае аб народзе, колькі дбаў за часы паншчыны памешчык аб сваіх мужыках. Як у таго, так і ў другога адна думка: як можна больш дзерці з свайго падданага і трымаць яго так у руках, каб ня сьмеў пікнуць. А

другая думка цара і яго міністраў: думка аб тым, каб як найдаўжэй на троне сядзела яго патомства.

Ведаючы, што народ доўга не захоча пераносіць зьдзеку і паняверкі і пры кожнай магчымасьці будзе дабівацца правоў,—абсалютныя манархі як агня баяцца прасьветы народа, якая ў народную гушчу нясе вокліч роўнасьці і братэрства ўсіх людзей. Правы свае распараджацца жыцьцём і сьмерцяй мільёнаў людзей цары праз вусны паднявольнага яму духавенства тлумачаць як правы, пасланыя ім ад самога Бога! Толькі на лгарстве і цемнаце народнай трымаюцца абсалютныя манархі. Праканаўшы народ, што яны ўпраўляюць ім з ласкі Божай, гэныя, так званыя „памазанікі Божыя" змушаюць народ жыць „з ласкі царскай."

„Па ласцы панскай далёка не заедзеш,"— кажа наша прыказка. І запраўды, па ласцы царскай калі заезджае народ, то найчасьцей у гэткае балота, з якога ня ведае, як выбрацца навет тады, калі ўдалося яму скінуць ярмо царызму. З усяго гэтага мы бачым, што ў абсалютнай манархіі, ў якой найвышэйшая дзяржаўная ўлада ў асобе цара—цар і народ, знаходзяцца ў безпрастаннай вайне паміж сабою, ня можа быць гутаркі аб поўным разьвіцьці духоўных і матэрыяльных сілаў народу.

Іначай справа выглядае ў канстытуцыйна-манархічных і рэспубліканскіх дзяржавах, у якіх народ, праз сваіх прадстаўнікоў, сабраных у соймах альбо парлямэнтах, мае права пісаць законы і назначаць і зьмяняць міністраў. Такі тып дзяржавы больш або меньш забесьпячае выяўленьне волі народнай залежна ад закону, па катораму народ выбірае сваіх прадстаўнікоў да сойму. Законы гэныя, званыя выбарным правам, у розных дзяржавах так канстытуцыйна-манархічных, як і ў рэспубліках бываюць розныя. Адны з іх уводзяць розныя абмежаваньні для выбаршчыкаў, дзеля чаго з усіх людзей, засяляючых дзяржаву, толькі невялічкая частка іх мае права выбіраць.— у другіх дзяржавах абмежаваньні гэныя бываюць меньшыя і дзеля гэтага лік выбаршчыкаў будзе большы і наканец, у трэціх дзяржавах выбарны закон усім жыцелям дае права выбараў, за выняткам людзей не паўналетніх, праступнікаў і войска.

Абмежаваньні гэныя найчасьцей маюць на мэці спыніць ад прадстаўніцтва ў сойме, бяднейшыя гурткі насяленьня дзяржавы якімі з'яўляюцца сялянства і работнікі.

Там, дзе закон абмяжоўвае правы выбараў— за звычай ня пішуць проста, што сялянства і работнікі ня маюць гэткіх правоў пры выбарах, як іншыя грамадзяне дзяржавы, але робяць гэта далікатна, пад іншым сосам, так што іншы раз трэба добра ўчытацца ў закон, каб разпазнаць куды ён кіруе.

Межы гэныя іншыя законы праводзяць, даючы, скажам права выбараў ў сойм толькі граматным.

Аб селяніне і работніку туткі не гаворыцца нічога. А гэткі закон, дзе ён істнуе, якраз скіраваны проці сялян і работнікаў. Бо калі ёсьць у дзяржаве няграматныя, то дзе-ж іх шукаць, калі ні паміж сялянамі і работнікамі. Калі-б у Польшчы быў такі выбарны закон, то амаль палова селян і работнікаў ня мелі-бы права выбіраць і значэньне іх у сойме мусіла-б зьменшыцца на палову.

З мэтай спыненьня ад выбараў часткі сялян і работнікаў ўводзяць часам у выбарны закон такі параграф, па катораму маюць права выбіраць толькі людзі, якія зарабляюць у год пэўны лік грошаў. Хто зарабляе меней—выбіраць ня мае права.

Ці тутака ёсьць хаця слова аб сялянах і работніках?

Няма. А ня трэба быць вельмі дасужым, каб дадумацца, што якраз проці іх скіраваны гэны закон. Бо калі ёсьць бедныя людзі, то дзе іх найбольш, калі не паміж сялянамі і работнікамі.

І гэткіх параграфаў, абмежоўваючых выбарныя правы селян і работнікаў, можа быць шмат.

Возьмем хаця-бы гэткі закон, што выбары ў сойм павінны вясьціся ня скрытна, а адкрыта Здаецца, што ў гэным дрэннага? Сыйшліся людзі, пагаварылі паміж сабой і галасуй: „Хто за Янку, падымай рукі", паднялі рукі, злічылі, „хто за Пятра, падымай рукі", зноў злічылі. Хто болей дастаў, таго і выбралі. Але гэта толькі так здаецца, што гэта нічога.

Скажам, выбары ідуць у вёсцы. Янка, вучыцель, сын селяніна, чалавек ведае навуку, стаіць за народ, будзе дамагацца законаў патрэбных для сялянства, для сялян якраз падходзіць, каб пасланць яго да сойму. А Пятрук абшарнік, маёнткі свае мае. Пашлі яго дык ён гэткі закон напіша, што хай Бог сьцеражэ. Якраз захоча паншчыну вярнуць. Вядома, трэба Янку выбіраць, а не Пятра.

Але як тут за Пятра рукі не падняць, калі сам, ён тутака, глядзіць, пазірае, аканом яго так сама туткі шмыргае паміж людзямі, намаўляе, каб Пятра выбраць.—Выбірай браточку, кажа, табе Петр сенажатку, што побач з тваім полем, задарма дасьць, другому абецае, што сасонак з дзясяттак на складзік па таннай цане адпусьціць, а трэці ўжо бяз намовы, сам думае, як тут рукі не падняць за Пятра, калі я ў яго 10.000 марак пазычыў і хутка трэба аддаць, а тут грошай няма, як рукі не паднімеш, дык Пятрук не даруе, загубіць чалавека.

Так сама думае і чацьверты, пяты і дзясяты, бо кожны селянін ад двара трошкі залежны і не хацеў-бы гнявіць пана Пятра.

Пачалі паднімаць рукі, глядзіш выбралі Пятра, а ня Янку.

А Петруку толькі таго і патрэба, раней ён цісnуў сваіх суседзяў без закону, а цяпер ён будзе сам пісаць законы і ўжо пэўна пішучы яго больш будзе думаць аб сабе чым аб селянах.

У. М.

(Далей будзе).

# Паустаньні...

Гарыць вагонь у сярэдзіне зямлі. Кіпіць-бурліць разстопленая лава... Бурліць шукае выхаду і... прарываецца!

І грозныя вулканы выкідваюць на верх, на скару зямлі столькі вагню, што часамі заліваюць, топяць цэлыя вёскі, гарады, ваколіцы...

Так і людзкое жыцьцё. Яно ня лёгкае, цяжорнае, пякельнае. Яно несправядлівае, ня роўнае. І людзі, як той агонь у нетрах зямлі, кіпяць-бурляць ў сваіх парывах... Бурляць, шукаюць выхаду і... нрарываюцца...

І руйнуюцца, нішчацца цэлыя гарады, вобласьці і дзяржаўнасьці.

Так, руйнуюцца. Бо інакш нельга. Нельга ў барацьбе захаваць парадку. І нельга не бароцца, бо парадку ўсё роўна няма... Інакш не гарэў-бы вагонь у сярэдзіне зямлі, нябыло-б ні сьвету ні цемры, ні цепла ні холаду, ні жыцьця, ні сьмерці... Ня было-б нічога, як да стварэньня сьвету. Бо і творачы сьвет Бог, як душу у яго, як кроў у жылы — улажыў барацьбу. Барацьбою жыве сьвет. Барацьбою жывуць людзі.

Ня здольны да барацьбы чалавек, ці жывіна, ці расьлінка — гіне,

Гінуць і народы няздольныя да барацьбы. Гінуць дзяржавы.

Істотай сваею пачуваючы жах перад гібельлю — нат слабенькае кволае стварэньне — бароніцца перад непамерным у сілі ворагам.

Чым страшнейшы вораг, чым бальшы жах перад гібельлю. — тым больш хочацца жыць... Тым больш хочацца бароцца і пакараць.

На усім зямным абшары, то там, то гэтта — безперастанку ўспыхваюць войны, рэвалюцыі, паўстаньні.

Гарыць вагонь у сэрцах чалавечых.

Кіпіць яго крыўда, кіпіць-бурліць, як растапленая лава у сярэдзіне зямлі і шукае выхаду.

Грозным вулканам вырываецца людзкая крыўда—нездавольства і залівае сабою зямлю.

Гісторыя ведае факты, калі сільныя духам, хоць слабыя фізычна народы бывалі пераможцамі над сільнымі фізычна але слабымі духам.

Гісторыя, бадай што, не адзначае факту, каб сільныя духам народы — гінулі.

Магчыма, шчто сільные духам на пэўны пэрыяд і затрымоўваліся у сваей барацьбе, засыпалі летаргічным сном, — але жылі і жывуць да гэтуль.

Бо ў праве сіла, а не ў сіле права.

І праўда. Гісторыя гэта стверджае, ды і мы самі бачылі за апошнія часы, як надзвычайна моцныя жалезныя кулакі апушчаліся бязсільнымі перад тымі „слабымі", сэрцы і воля каторых былі сталёвымі.

Аслабела сільная Германія.

Разсыпалася магутная Расея.

Бадай што ня істнуе Аўстрыя.

Дрыжаць за сваю скуру: Англія, Францыя, Амэрыка, Японія.

На абшарах гэтых былых і яшчэ істнуючых дзяржаў, цяперка ўвесь час, то там то тут успыхіваюць паўстаньні. Яны найчасьцей, бытцам то і ня страшны на першы пэгляд з боку фізычнай небязпекі, але затое і цяпер вельмі страшныя з боку маральнага, бо збудованы яны на праўдзівых патрэбах чалавека.

У Ірляндыі паўстаньне.

У Індыі паўстаньне.

У Карэліі паўстаньне.

Уся Украіна і Савецкая Беларусь абхоплены паўстаньнямі. Уся Велікарасея і Сібір — таксама Крым, Каўказ, і г. д.

Ліецца кроў людзкая, гарацъ будынкі, дратуюцца пасевы.

Плачуць жанкі і дзеці. Праклён і стогн апанавалі зямлю,

Ідзе барацьба.

Стрымаць яе нельга. Прыйшла пара прарвацца народнаму гневу і жыцьцём ці сьмерцьцю, але здабыць чалавечыя правы.

Бо годзі здзекавацца над людзьмі!

Годзі няволиніцтва!

Кожны чалавек, ёсьць роўны ўсякаму другому чалавеку і непавінна быць старшых і малодшых.

Не павінны Ірляндцы быць нявольнікамі Англо-Саксаў,

Не павінен Індус быць псаром у Англійскага Лорда.

Не павінна Карэлія, Украіна, Беларус, Каўказ, Крым згодзіцца, каб пасьля крывапіўцы Мікалая II—душыў іх касьляваю рукою Кат Троцкі.

Ня можа Беларусь прызнаць свайго падзелу. Ня можа Беларус падстаўляць сваю сьпіну пад бізуны. Ня можа Беларусь дапусьціць здзеку над сабою, бо

прыйшоў час яго і ён не пацерпіць назоваў: „хама і мужыка, скаціны, нявольніка“!

Беларус — чалавек!

Беларусы, як і ўсякія другія народы павінны жыць і проці ворагаў сваіх—бароцца.

**І. П.**

## Беларуская мова і.. пан Дмуха.

Беларускі нацыянальны рух не дае спакою віленскай газэце „Rzeczpospolitej.“ З усіх сіл стараецца яна ўбіць у галавы сваіх чытачоў, што ніякіх беларусаў і беларускай мовы няма, што па ўсім абшары „крэсаў,“ якія паводле яе думкі цягнуцца амаль не да самай Масквы і Царэвакакшайска, — жывуць толькі палякі, а „Беларусь“ „беларускі народ і беларуская мова,“—ўсё гэта выдумкі ворагаў Польшчы. Зусім таксама, як калісь пісалі чарнасоценныя газэты „Русское Знамя“ і „Новое Время,“ для якіх так сама Беларусь і беларусы не існавалі, а быў „Сѣверо-западный край“ і „истинно-рускій народ“.

Але гаворачы аб тым, што ніякіх беларусаў няма, „Rzeczpospolita“ ня можа бяз іх абыйсьціся і няма ніводнага бадай нумару гэтай газэты, ў якім ня было-б якога-небудзь выбрыку ў бок беларусаў.

У № 48 ад 25-га лютага г. г. зьмешчаны артыкул „działacza miejscowego“ нейкага пана Паўла Дмухі ў справе беларускай мовы ў касьцёле. Гэты пан Дмуха з скуры лезе, каб давясьці, што беларуская мова ў касьцёле зусім не патрэбна. Як на довад п. Дмуха ссылаецца на аўтарытэт кзяндза Урбана.

Ксёндз Урбан у сваім месячніку „Przegląd Powszechny“ гаворыць аб тым, што каталіцкі касьцёл заўсёды зьвяртаецца да верных у найболей зразумелай мове, аднак нельга карыстацца касьцёлам для ўзмацненьня штучнай (?) беларушчыны, дзеля таго, што паводле пагляду ксендза Урбана, беларусы-каталікі паходзяць не ад беларусаў, а.. ад палякаў, альбо літоўцаў(!) На тое, што беларусы—каталікі гавораць не па польску, а па беларуску, што беларуская мова ёсьць роднай мовай беларусаў і болей зразумелай для іх, чым мова польская,—кс. Урбан і п. Дмуха абходзяць маўчком.

У канцы свайго артыкулу пан Дмуха прызнаецца ў тым, што такія як ён сам „мешканцы крэсаў“ раней былі ў радох тых, якія шчыра (?) падтрымлівалі беларускі рух, але потым пакінулі іх і пагражае вясьці з гэтым рухам цяжкую барацьбу...

На гэта мы скажам:

— Добра, панове, што вы пакінулі, а вашых пагрозаў ніхто ня баіцца; беларускі нацыянальны рух ужо так узмацнеў, што ніякія вашы пагрозы яму ня страшны. М. К.

## Беларускія народныя песьні.

* * *

Муж і з жаною хораша жыве.
Сам ён выпье чарачку і жане нальe.
— Выпі мая жоначка чарачку адну,
Забудзь мая жоначка сваю старану.
— Я ня буду чарачкі поўнай выпіваць,
Ня буду староначкі сваей забываць,
У нашай старонацэ салаўі пяюць,
А ў вашай старонацэ людзі асьмяюць.

Запісана са слоу сялянкі в. Вялікі Бор, Красносельскай гміны Вілейскага п. Ульяны Яцыновіч.

### О ель мая, ель зялёная.

О ель мая, ель зялёная,
Старана-ж мая вясёлая,
Старана-ж мая вясёлая,
Не магу яе забыцися.
Ночай сьпячы, а ў дзень ходзячы
З чужаземцамі гаворачы,
Ой выйду я за вароцячкі,
За вороцячкі за новыя,
За новыя за кляновыя,
І гляну я па зарэчаньку;
Вада з вадой суліваіцца,
Трава с травой сувіваіцца.
Брат з сястрой разлучаіцца,
Сястра мая перапёлачка,
Нас нямнога, толькі двоячка,
Разлучая нас няволячка,
Разлучае нас няволячка
Чужаземская староначка,
Чужаземская староначка
Пецярбурская дарожачка.

Запісана са слоу Аудоці Яцыновіч,
Вялікі Бор Вялейскага павету.
Сьцяпан РУДЗЬ.

## Абяздоленая.

Хто яе толькі не знаў? Усе—ўвесь горад.

Кожны дзень пад вечар, калі на дварэ была добрая пагода, яе можна было спаткаць на адной з больш парадных вуліц спацыруючай, а ўлетку—бачыць і на бульвары. Гуляла найбольш адна, рэдка калі з якой-колечы таварышкай.

Спацыравала заўсягды паволі, паважна, з выразам на твары вялікага задавальненьня з жыцьця.

Перадусім была маладая, харошая, ды стройная, дык ня дзіва, што выдавалася быць вельмі шчаслівай.

Брунэтка, з правільнымі лініямі твару, вочы, як вугольле—чорныя, вялікія, брыві густыя, губкі ружовенькія—цененькія, як-бы нафарбованыя, носік зграбны—словам, выглядала як-бы выкрадзеная з якога пекнага малюнку.

Ішла—бытцам лебедзь плыла. Адзетая заўсягды чыста, багата, паводлуг апошняй моды.

Пры такім звычайным характве мела аднолькава і пэўныя вады. Твар быў занадта напудраваны, вочы моцна валавіком падведзеныя, а ад усяей яе асобы нагул ня веяла тэй прыгожасьцю і сьвежасьцю, якою адзначаюцца кабеты яе веку, хоць і куды меньш ад яе харошыя, але якіх усе больш паважаюць. Нешта штучнае, прымушанае вычувалася навет і у той яе лёгкай, вясёленькай усьмешцы, з якой яна заўсягды паказвалася на вуліцы; нечым ненатуральным веяла ад яе.

Дзівіла адно, што нягледзячы на дзіўнае характво і сталае прабываньне ў горадзе, ў яе тут якбы ня было ніякіх знаёмых: ніхто ёй пры спатканьні ня кланяўся.

Гарадзкія мужчыны абражаюча заглядалі ёй у вочы, некатарыя з іх навет усьмехаліся да яе; але ўсе яны праходзілі міма, без усялякага паклону. А кабеты—дык тыя ня толькі не зьвярталі на яе ані якай увагі, але навет адварачваліся ад яе.

Дык хто-ж яна тагды была?

Кабета брыдкага павядзеньня--начны матылёк.

Ахвяра распуснікаў, пацеха лайдакоў, роскаш сытых...

Яны не пазнавалі і саромяліся яе церад людзьмі—днём, але блізка зналіся з ёю познымі вечарамі і праводзілі з ёю цэлыя ночы.

* * *

Вечар. Цёмна. На дварэ крыху халаднавата, чуецца восень. З садоў пачынае абсыпацца лісьцьцё і засьцілаць брук. У гэткія вечары ўжо рэдка каго спаткаеш на вуліцы адзетым па летняму—найбольш апрануты ў васеннія вопраткі.

Вагромністая царква заліта яркім сьветам,—гарыць мо тысяча рожнага калібру сьвечак. Багата асьвечана аўтарная часьць і ўсе вобразы—запалены ўсе панікадзілы, кандэлябры і рожныя ліхтары—падсьвечнікі, а сіла гэтага сьвету яшчэ падвойваецца водблясками ад усялякіх у царкве пазалотаў.

Народу ў царкве поўна. Заўтра вялікае царкоўнае сьвята—фэст. Вячэрню адпраўляе архірэй з цэлым клірам духоўнікаў.

Слаўны на ўсю губэрню вялікі царкоўны хор зачароўвае ўсіх сваім сьпевам. Пад уплывам гэтага сьпеву ўсе стаяць у царкве, як заклятыя,цяжка ўздыхаюць, ды размашыста і пабожна жагнаюцца.

Направа, недалёка ад увойсьця, пры апорным для скляпеньня філяры, церад вобразам укрыжаванага Спасіцеля стаіць у дарагім каракулёвым паліце і пекнай шапацы маладая стройная дзяўчынка, стаіць і ані зварухнецца.

Сьвет ад сьвечак, якія гараць перад гэтым вобразам, падае ёй проста на твар і выразна яе асьвечвае.

Стаіць і сваіх вялікіх палючых чорных вачэй не адрывае ад вобразу,—углядаецца ў яго, як няпрытомная,—ані зьмігне.

Хор запеў „Ныне отпушчаешы" і запеў, як здавалася, так прыгожа, што мо ўва ўсім сьвеце ані адзін хор не патрапіў-бы так запець.

Тварык дзяўчынкі пакрыўся страшеннай бледнасьцю, вусны моцна задрыжэлі, а вочы напоўніліся сьлязьмі, і яна з цяжкай ў душы больлю, вельмі пабожна і выразна прашаптала:

— Божачка, даруй мне!..

Людзі, якія бліжэй яе стаялі, раптоўна аглянулася, але ўгледзіўшы, хто гэта так моліцца, толькі засьмяяліся.

А яна, як закамянелая, ўставіла вочы ў вобраз—воблік Хрыстуса і ціха плакала.

Падышла да стала і купіла сьвечку. Вярнулася, запаліла гэту сьвечку і пачала яе стаўляць. Масыўны прывобразны ліхтар быў да таго перапоўнены сьвечкамі, што для яе сьвечкі ня было ўжо мейсца; толькі ў адным куточку—пры самым краі—яшчэ можна было яе як колечы прыляпіць. Але рукі вельмі дрыжэлі, а вочы заходзіліся сьлязьмі,—ёй гэта ніяк не ўдавалася.

— Дазвольце, я вам памагу!—ласкава адазваўся да яе нейкі малады пан, які стаяў недалёка ад вобразу.

Дзякуй!.. Я... сама...—ледзь чутно адказала яна.

І хоць з вялікай трудчасьцяй, але сваю сьвечку да ліхтара яна, ўсё-ж ткі, прымацавала і сама апусьцілася на каленькі.

Хор сільным гукам усіх галасоў, падтрыманы яшчэ найвышэйшымі нотамі басоў пяючы „Ныне отпушчаешы", вельмі магутна сьпеяў слава: „Сьвет" так, што аж агні захісталіся і шыбы ў вокнах задрымцелі.

Слаба прымацаваная да ліхтара сьвечка адарвалася, ўпала на падлогу, згасла і прыкацілася да самых каленьняў разжалянай дзяўчыны.

Яшчэ не пасьпеў замерці высака—пад скляпеньнем—водгук ад гучна прапетага слова, як на ўсю царкву разлёгся дзікі спазматычны крык:

— Божачка добры, Божачка міласэрны! Зьлітуйся, прабач, даруй мне грэшнай!—

Усе кінуліся ў тую старану, адкуль раздаўся гэты праразьлівы крык, але там перад вобразам Укрыжаванага Хрыстуса—той, што так крычала, ўжо ня было. Толькі на падлозе ляжала зломаная і прытоптаная сьвечка.

* * *

Па адной з самых найглушэйшых вуліц гораду бяжыць, як утрапёная маладая дзяўчына. Рэдка разстаўленыя газавыя ліхтарні слаба асьвечаюць гэтую вуліцу: можна кіравацца па іх сьвет, але не карыстацца гэтым сьветам, бо ад ліхтарні да ліхтарні—зусім цёмна.

Але шпарка бяжыць дзяўчына.

На сустрэчу ёй трапіўся ня зусім цьвярозы малады хлапец—ішоў хістаючыся. З адзежы можна было мяркаваць, што гэта нейкі рамесьленік: у ватовай куртцы і ў крыху памятай шапцы—з скураным брыльком.

Сустрэўся і затрымаўся. Дзяўчына, як маланка, праляцела міма яго.

— Тамара!—Крыкнуў ён.

Але дзяўчына гэтага ня чула—імкнула ўперад нічога не бачучы і на нішто не зважаючы.

Хлапец пасталў—пастаяў, ды і пашоў далей сваей дарогай.

— Звар'яцела!—сказаў ён голасна сам да сябе.

Дзяўчына прымчалася да невялічкага дзеравянага на вуліцы дамочка і моцна пастукалася ў адвулічныя дзьверы. Дзьверы расчыніліся, і яна апынулася ў сваім пакоіку. Скінула з сябе сваё паліто, шпуранула яго на падлогу, запаліла лямпу і ўвалілася ў крэсла.

Пакой быў невялічкі, але прыгожа ўбраны і

чысьценькі. На сьценах віселі ў харошых рамках рожныя фатаграфіі, карцінкі, адкрыткі і іншыя малюнкі; у пакоі былі: камода, некалькі мягкіх крэслаў, пісьменны стол і з дарагім полагам мягкае нікельнае ложка. Вакно аздоблена харошай фіранкай, на стале і камодзе—засланы дарагія сарвэты, а пасьцель—толькі заглядзецца. Адразу было відаць, што гаспадыня гэтага пакою не належала да ліку бедных і любіла ў сябе чыстату і парадак.

Агонь з лямпы адсьвечваўся ў вялізарным—у рост чалавека—люстры.

Дзяўчына сядзела і аб нечым глыбока-глыбока думала. Твар яе быў перакошаны нейкім цяжкім цярпеньнем, а вочы ад болю душы выглядалі прымутнеўшымі—нявыразнымі.

Была харошая і ў гэтай задуманасьці выглядала, як боства цярпеньня.

Сядзела і доўга думала.

Аб чым?

Мо аб тым, як калісь-то будучы яшчэ малым дзіцянём, тулілася яна да мацеры сваей і неразлучна-бы была пры ёй?

Мо аб тым, як у сваей вёсцы на ўсю ваколіцу слыла за цыганку—харашушку: пеяла простыя беларускія песьні, бегала па полі, лавіла матылькоў, зрывала кветкі і заслухоўвалася ў сьпевы птушак?..

Бацькі гінулі за ёю, а суседзі зайздравалі што ў Рыгоравых такое харошае дзіця — іхняя Настулька?

А ў бацькоў яна—была толькі адна, больш дзяцей ня было.

А мо аб тым думала яна, як пазналася з панічом, тагды яна ня мела яшчэ і шаснаццаці гадоў, як пачынала развівацца і красавацъ?...

„Насьця, Настулечка! Ты—пекната!—Аздоба ня толькі сваей вёскі, але і ўсяго сьвету,—павер мне... Не! Вёска не для цябе!.. У могілцы спачываюць толькі трупы. А ты, яснае сонейка, павінна асьветліваць зямлю і з нешчасных вытвараць шчасьлівых—гэта твой абавязак... А мой!?—Гэта—пазбавіць цябе ад страшнай будучыны селянскага заняпаду, ад горкай долі бязвыхадных мучаньняў беднаты, ад пекла прадвечнай мужыцкай нядолі, ад чорных мрокаў грубай цемнаты, і вывесьці цябе на шлях—сьветлай роскашы, бесканечнага вясельля і вечнага панаваньня. Не пры парозі сьвятасьці жыцьця, а на магутным аўтары каралеўскага панаваньня—павінна ты, Настулечка, быці і прыймаць усе ахвяры, якія гэтаму жыцьцю складаюцца людзьмі рожных станаў. Дарагія рэчы мусяць мець дарагую аправу. Ты харашэйшая з найхарашэйшых!.. Я люблю цябе! Насьця! Кінь сваю брыдкую вёску і ўсё зьвязанае з ёю—яна не для цябе.. Едзь са мною—ў горад. Там будзеш паняй, а я тваім вечным слугою“.

Так гаварыў ёй пекны малады паніч, які зімою жыў ў горадзі—вучыўся, а на лета прыезджаў на супачынак у двор—да свеіх бацькоў.

Ен быў малады, надта харошы; яна яго вельмі кахала і ня верыць яму не магла.

— Так, ён вывеў мяне ў пані... Шаптала дзяўчына.

Вочы яе яшчэ мацней памуціліся і бліснулі злым, нядобрым сьветам.

Усхапілася з крэсла, паглядзела ў люстра і голасна, на ўсё памешканьне разрагаталася:

— Ха-ха-ха! Пані!?. Ха-ха-ха-ха!..

У дзьвярах паказалася напалавіну адзетая, ў бруднай кашулі і такой-жа споднай спадніцы босая, заспаная, разлахмачаная старая жыдоўка—гаспадыня дому.

—Тамара! Ты розум страціла, ці што? Чаго крычыш? Што сягоньня з табою? — спытала.

Дзяўчына адвярнулася, зьмерыла гаспадыню дзікім пякельным поглядам і немым голасам закрычала:

— Вон адгэтуль! Я не Тамара, а Насьця Насьтуля!.. Скалечаная панскімі ласкамі вясковая мужычка—хамоўка... Вон ад мяне.

Жыдоўка перапалохалася і ўцякла..,

Тымчасам дзяўчына застаўшыся адна, пачала рваць і скідаць з сябе новую дарагую адзежу, якая на ёй была, і адзевацца ўва ўсё тое, што ў яе было найгоршае. Выцягнула з—пад ложка парваныя чабоцікі — абулася ў іх; апранула на сябе старую, зношаную спадніцу, просты кафтанік, парыжэўшую сьвітку, завязала на галаву чорную ў белыя кропелькі парквалёвую хустачку, згасіла агонь і... вышла...

Толькі дзьверы моцна ляснулі, як стукнула яна імі выходзячы...

* * *

Прайшло нядзелі са дзьве. Восень адчувалася ва ўсім: з поўначы павеваў халодны вецер, неба было пакрыта цёмнымі хмарамі, лісьцё, якоя яшчэ засталося на дрэвах, пажаўцела, час ад часу імжыў дробненькі васеньні дожджык — на дварэ толькі таго, што непагадзь і гразь.

Пад вечар на магілкі, што лежаць далёка за горадам пад'ехала аднаконная фурманка і затрымалася пры браме. Худы, невялічкі конь быў запрэжаны ў панарад. На возе знаходзілася простая немаляваная, — зьбітая з сасновых габляваных дошчак — труна, а побач яе — з левай стараны — ляжаў царкоўны крыж, які звычайна носіцца ўперадзі пры провадах нябошчыкаў.

У абарванай ватовай куртцы і аблезлай баранковай шапцы сярэдніх лет фурман затрымаўся каля брамы так, каб конь не стаяў проціў ветру, затрымаўся і чакаў, аж выйдуць з могілак людзі і забяруць з воза той цяжар, які ён на гэтай фурманцы прывёз.

Сябар яго, з каторым ён быў выехаў разам з бальніцы і каторы спачатку нёс наперадзе праз горад царкоўны крыж, як толькі апынуліся за горадам, — крыж гэты палажыў на воз, а сам хутка памчаўся на могілкі, каб—да прыезду фурманкі — ўсё там прыгатаваць да пахаваньня.

І фурман чакаў...

Праз доўгі час дзьверцы пры браме заскрыпелі, і вышлі двох далакопаў,

Каго прывёз, і чаму так позна? — спытаў адзін з іх.

— Нябошчыцу паненку, — адказаў фурман. —Мелі заўтра хаваць, але там нехта новы гакнуў, дык мейсца патрэбна, вось начальства і прыказала адвезьці яе сягоньня на могілкі.

— А што, хіба ў яе ані якіх знаёмых, або сваякоў няма, што яна адна сюды прыехала?

А-а-т!.. Ведаеш!.. Яна з гэтых... з вулічных... Якія тут могуць быць сваякі?... Труцілася, да не датруцілася... Нядзелі са дзьве прамучылася ў

бальніцы, ды ў канцы канцоў, сягоньня раніцай ня вытрывала, памерла...

— Вось як!—зьдзівіўся грабар.

— Расказвалі ў нас, у бальніцы,—казаў далей фурман,—што яна бытцам з нейкай далёкай вёскі ды з нейкім багатым панічом колісь-то зьвязалася, а той яе прывёз у горад, нават вучыў яе, ўтрымоўваў, ўсё маніў, што будзе з ёю жаніцца... Ну, а пасьля, ведама пан, да дабра мужыка ніколі не давядзе... Кінуў... І вось згінула за нішто...

— О-о-х, гэтае баб'ё!—Загаманіў другі грабар.—Хіба, што нічога дурнейшага ад іх ў сьвеці няма. Калі яна-другая крыху гладчэйшая ад іншых баб, дык, ліханька ёй, не глядзіць на сваіх, каб гэта была раўня сабе, а ўжо паміж рожных кручкоў лепшай долі шукае; на аблудную далікатнасьць імкне, і не за сваё хапаецца. Знача, каб смачна есьці, позна спаць і нічога не рабіць,—паняй быць, ды яшчэ іншымі камандаваць... Ну, і прападаюць... А тым больш у горадзе. Тут для іх ніякага ратунку няма—гінуць як мухі...

Тымчасам, вярнуўся і той сябар, які быў кінуў фурманку за горадам і пашоў ўперад. Расчынілі вароты, сьцягнулі з воза труну і ў чатырох занесьлі яе аж у самы, канец могілак, на тое мейсца, дзе хавалі толькі самых бедных бальнічных—безплатных.

— А што гэта папа ня відаць, і звон у царкве не адазваўся?—спытаў фурман.

— Сягоньня наш поп сваю старшую дачку замуж аддае. Вясельля ў яго... аб'ясьніў грабар.

— Апусьцілі, шпарка не асьцярожна, бытцам у выкапаны дол труну, засыпалі яе зямлёю, паставілі на версе уткнуўшы злёгка ў сьвежы пясок невялічкі, без усялякага надпісу, дзераўляны крыжык, наастатку перажагналіся і пашлі...

Скончылі!..

Магілка гэта нічыей больш увагі не зьвертала. Нікога яна не цікавіла.

Пясок скора зьлёгся—апаў, крыж паваліўся, а праз два гады ад гэтай могілкі ніякага сьледу не засталося: зраўнавалася з зямлёй і зарасла травою.

**В. Пупка.**

## Спрытны адказ.

У дзень на вуліцы стаялі
Сяляне гурбою,
Сьмяяліся, жартавалі
Усе паміж з сабою.
І як з даўна ў нас бывае
Пры гэтакай справе—
Адзін лоўка нешта збае,
А другі падправе...
Дый было іх там не мала,
Як стада авечак.
Аж праходзіць тут памалу
Нейкі чалавечак.
Дзень быў летні, не гультайскі,
Дык шоў мо да працы,
А ўвесь гэты тлум лайдацкі
Пачаў прыставаці,
Лезуць міма яго волі
Бытцам мухі ў вочы:
—Чаму,—кажуць,—брэшуць болей
Сабакі у ночы?
А той мовіць гэткім знакам:
—Хіба вось як будзе,
Што у дзень брахаць сабакам
Памагаюць людзі?!..

Стары Улас.

# Палітычныя весткі.

## Акт злучэньня Віленскай зямлі з Польскай Рэчыпаспалітай.

Дзеелася ў Варшаве ў Палацы Рады Міністраў, дня 2-га сакавіка 1922 г. ў прысутнасьці Польскага Ураду ў асобах: (вылічаюцца усе сябры Ураду) і дэлегатаў Віленскага Сойму, як сабраньня прадстаўнікоў люднасьці Віленскай зямлі дзеля выказаньня волі людкасьці (вылічаюцца сябры дэлегацыі), якія асьведчылі, што Віленскі Сойм, маючы поўнае права рашаць лёсы краю, на ўрачыстым пасяджаньні, якое адбылося ў Вільні 20-га лютага 1922 г. пастанавіў (тут прыводзіцца даслоўна вядомая пастанова Віленскага Сойму, якая зьмешчана у № 1 „Род. Стр.").

Урад Польшчы прыняў да ведама заяву дэлегатаў Віленскага Сойму, а затым агульным актам стверджана:

Артыкул I. Віленская Зямля, з волі свай люднасьці вольная ад усялякіх іншых дзяржаўных сувязей, застаецца злучанай з Польскай Рэчыпаспалітай.

Артыкул II. Дзяржаўная сувэрэннасьць над Віленскай Зямлёй адгэтуль належыць да Польскай Рэчыпаспалітай.

Артыкул III. Польскі Урад заяўляе, што Сойм Польскай Рэчыпаспалітай установіць статут Віленскай Зямлі.

Артыкул IV. Гэты акт падлягае затверджаньню Соймам Польскай Рэчыпаспалітай, пасьля чаго, з прычыны прадстаўленьня дэлегатамі Віленскага Сойму паўнамоцтваў, прызнаных за выстарчаючыя і зробленыя ў належнай форме,—ўвойдзе ў жыцьцё.

Пратакол падпісаньня акту злучэньня Віленскай Зямлі з Польскай Рэчыпаспалітай пасьля доўгіх нарадаў, якія працягліся да 4 з пал. гадзіны раніцы, падпісалі ўсе сябры кабінэту, а з Віленскай дэлегацыі толькі дзесяць паслоў. Устрымаліся ад падпісаньня паслы „Zespołu" і два паслы з Радаў Людовых: Яхевіч і Швабовіч. Старшыня міністраў заявіў, што гэты акт прызнае за недастатачна падпісаны і што ў гэтай форме ўнясе яго ў Сойм Рэчыпаспалітай Польскай.

З прычыны таго, што паразуменьне паміж Урадам і дэлегацыяй не наступіла, габінэт міністраў, на чале са старшынёю п. Панікоўскім, падаўся ў адстаўку.

## Аб конфэрэнцыі ў Гэнуі.

У Булоні (Францыя) адбыліся нарады паміж старшынёю францускай рады міністраў Пуанкарэ і старшынёю англійскіх міністраў Лёйд-Джорджам у справе маючай быць конфэрэнцыі ў Гэнуі. На гэтых нарадах пастаноўлена: 1) Трактаты, якія падпісаны Францыяй, ня будуць абгаварвацца на конфэрэнцыі. а трактаты, якія зрабіла Расея з Румыніяй, Польшчай і Балтыцкімі дзяржавамі,—могуць быць разгледжаны на конфэрэнцыі. 2) Пытаньня аб адшкадаваньнях выключаны. 3) Лізе Народаў будуць перададзены ўсе справы, якія належаць да яе компэтэнцыі, альбо якія яна ўперад разгледжвала. 4) Удзел Саветаў у конфэрэнцыі яшчэ ня азначае прызнаньня Савецкай Расеі. Гэтае прызнаньне могуць зрабіць дзяржавы паасобку. 5) Справа даўгоў, выкліканых наступленьнем Колчака і Дэнікіна, ня будзе разгледжвацца. 6) Новы тэрмін конфэрэнцыі назначаны на 10 красавіка г. г.

6-га сакавіка ў Лёндыне зьбяруцца прадстаўнікі Англіі, Італіі, Бэльгіі і Японіі з мэтаю падгатоўкі да гэнуэскай конфэрэнцыі, згодна з тымі прынцыпамі, якія былі прыняты на нарадах у Канах і Булоні.

Урады савецкіх рэспублік Далёкага Усходу, Азэрбайджану, Армэніі, Беларусі і Украіны афіцыяльна зьвярнуліся да Ураду Савецкай Расеі з прозьбаю прадстаўляць іх інтэрасы ў Гэнуі.

Лёйд-Джордж заявіў, што Антанта цяпер мацнейшая, чым была раней. Запрашэньне Расеі ў Гэную яшчэ не азначае прызнаньня Саветаў, бо гэтае прызнаньне залежыць выключна ад тых гарантый (забясьпячэньняў), якія дасьць Расея на гэтай конфэрэнцыі. Лёйд-Джордж будзе проціў прызнаньня Саветаў, у разе няпоўных гарантыяў.

Саветы атрымалі запэўненьне ў тым, што іх дэлегацыя на гэнуэскай конфэрэнцыі будзе карыстацца ўсімі правамі нароўні з іншымі дэлегацыямі.

## Новы абмен нотамі паміж Літвою і Польшчаю.

Польскі міністр загранічных спраў п. Скірмунт атрымаў ад літоўскага ўраду ноту, у якой Літва прапануе Польшчы перадаць вырашэньне пытаньня аб Віленшчыне Міжнароднаму Трыбуналу.

На гэта п. Скірмунт адказаў, што ня гледзячы на ўсё паважаньне да Міжнароднага Трыбуналу Польшча лічыць, што цяпер гэтае пытаньне ўжо спазьнілася, бо пасьля таго, як Ліга Народаў выпусьціла яго з сваіх рук, лёс Віленшчыны вырашыў віленскі народ. Аднак Польшча гатова пачаць безпасрэдныя перагаворы з Літвою аб іншых практычных пытаньнях.

## Хаўрус дзяржаваў Сярэдняе Эўропы

Міністр загранічных спраў Югославіі апрацаваў праэкт палітычнага хаўрусу паміж Югаславіяй, Румыніяй, Чэхаславакіяй і Польшчаю.

## Саветы рыхтуюцца да вайны.

З Масквы паведамляюць, што на паседжаньні вайсковай рады Троцкі ў сваёй прамове выступіў проціў таго, што заграніца дамагаецца дэмабілізацыі чырвонай арміі. Прапазыцыя Троцкага ў справе асыгнаваньня 5 мільёнаў рублёў золатам на закуп аружжа—прынята аднагалосна.

Цэнтральны Выканаўчы Камітет згодзіўся з прапазыцыяй Троцкага, каб як найхутчэй закупіць заграніцаю аружжа для саветаў.

На паседжаньні таго самага камітэту пастаноўлена рэквізаваць усю маемасьць праваслаўных царкваў з мэтаю павялічыць дзяржаўны капітал.

## Канец урадовага крызысу ў Італіі.

Новы габінэт міністраў, на чале якога стаіць старшыня Факт, апіраецца на народную партыю, дэмакратаў і лібэралаў. Міністэрства загранічных спраў прыняў Шанцэр.

## Нарады міністраў.

12-га сакавіка ў Варшаве пачнуцца нарады міністраў загранічных спраў Польшчы, Фінляндыі, Латвіі і Эстоніі.

## Незалежнасьць Эгіпту.

Эгіпт, які да гэтага часу знаходзіўся пад пратэктаратам Англіі, абʼяўляны са згоды Англіі незалежнаю дзяржаваю.

## Паўстаньне на Украіне.

Паўстанчы рух на Украіне проціў савецкай ўлады пашыраецца.

# РОЖНЫЯ ВЕСТКІ.

## Безрабоцьце ў Гэрманіі.

Лік безработных у Гэрманіі ўзрос у студні месяцы г. г, на 196 тысячаў.

## Узварот з Расеі званоў.

У пачатку красавіка г. г. чакаюць прывозу з Савецкай Расеі званоў, якія былі вывезены з віленскіх касьцёлаў і манастыроў у 1915 г.

## Адбудова Віленшчыны.

У Варшаве арганізавана камісія, па адбудоае зьнішчанай вайною Віленшчыны. У пачатку вясны маюць пачаць адбудову Сьвенцянскага і Ашмянскага паветаў. У канцы сакавіка будуць высланы яравое насеньне і коні.

## Аб справе высяленьня з Вільні літоўцаў і беларусаў.

Літоўскі міністр загранічных спраў разаслаў да ўсіх літоўскіх прадстаўнікоў заграніцаю цыркуляр з пытаньнем, што яны зрабілі ў тых дзяржавах, у якіх яны зьяўляюцца прадстаўнікамі Літвы, ў справе ўзвароту выселенных з Вільні літоўскіх і беларускіх дзеячоў.

Прадстаўнік Літвы пры контралюючай камісіі Лігі Народаў п. Іонас зьвярнуўся да гэтай камісіі з вострою нотаю ў абароне арыштаваных і дамагаецца, каб камісія патрэбавала ад польскага ўраду права на ўзварот арыштаваных у Вільню.

## Голад у Расеі.

У Уфімскай губэрніі ёсьць 51 тысяча сірот, якія засталіся пасьля памёршых з голаду сялян

Сьмертнасьць жыхароў Саратаўскай губэрні. даходзіць да 25 процэнтаў. Па дарозе з Севастополя да Сімферопаля і Эўпаторыі ляжаць тысячы трупаў.

### Польская пазычка.

Прадстаўнікі групы галоўных парыжскіх банкаў згодзіліся ўзяць удзел у размяркаваньні паміж сабою за год міліярда франкаў польскай пазычкі, калі яна будзе гарантована францускім урадам (1 франк каштуе 360 польскіх марак. Рэд.)

### Забойства Міхала Раманава.

Вядомы камуніст Мясьнікоў, у сваей кніжцы выданай выключна для сваей партыі, прызнаецца што ён забіў вялікага князя Міхала Раманава.

### Сап у Расеі.

З Растова паведамляюць, што тамака ў адным прытулку, разстралялі 117 дзяцей, бо гэтыя дзеці захварэлі сапам, пасьля таго, як былі накормлены сапнаю канінаю.

### Парадак назначэньня праваслаўнага духавенства.

Згодна апрацованым польскім урадам правілам для Праваслаўнай Царквы, на чале яе ў Польшчы стаіць экзарх. Пры назначэньні сьвяшчэньнікаў на прыходы, япіскапы павінны паведамляць аб гэтым паветовага старасту. Перад назначэньнем духоўная асоба павінна зьявіцца да старасты. Стараста паведамляе аб назначэньні ваеводу. Ваевода, сабраўшы весткі аб палітычнай дабранадзейнасьці кандыдата, паведамляе япіскапа аб тым, ці згаджаецца польскі ўрад на назначэньне гэтага кандыдата, Пасьля зацьвярджэньня, кандыдат на духоўную пасаду ў прысутнасьці старасты прысягае на вернасьць ураду. Тымчасова дазволена назначаць на духоўныя пасады асоб, якія скончылі вучэбныя ўстановы ў іншых дзяржавах, пры варунку прыняцьця польскага падданства.

---

# ВЕСТКІ з КРАЮ.

### Ашуканства.

25-га лютага г. г. ў віленскую паліцыю паступіла заява Петра Барацэвіча аб тым, што ўласьнік маёнтку Забашэвічы Мэльхіор Ваньковіч, 30 гадоў, пададўшы падложныя дакумэнты і расьпіскі на імя Генрыха Лаща, атрымаў ад яго, Барацэвіча 1.611.740 марак.

У той самы дзень машэньнік быў арыштаваны. На дапросе ён прызнаўся ў зробляным ашуканстве і сказаў, што яму памагаў яго стрэчны брат Балеслаў Ваньковіч, які даведыўшыся аб арышце брата, хаваецца і жыве непрапісаным. 26 лютага М. Ваньковіч заявіў паліцыі, што ён пакажа, гдзе жыве яго брат. Пад канвоем паліцэйскага агента М. Ваньковіч пайшоў на кватэру брата, па дарозе зайшоў у валну сталовую папалоднаваць і пакінуўшы на стале шапку, выйшаў да уборнай і ўцёк.

Уцёкшы праступнік — ўласьнік міліярднай маемасьці, і дагэтуль усё яго лічылі сумленным чалавекам.

(В. Р.)

### Вучнёўскі беларускі спэктакль.

Сычавічы, Вялейскага павету.

У нядзелю 26 лютага, у памяшканьні Сычавіцкай беларускай пачатковай школы вучнямі быў пастаўлены спэктакль.

Народу была поўная саля. Добра што нідзе не разжыліся афішы, а то ня было-б дзе ўмесьціць людзей, і так зьляцелася народу, як тых пчолаў у вулей.

Ігралі „Зьбянтэжаны Саўка“ і „Пасланец“ — Родзевіча.

Трудна апісаць, як люба было глядзець, што адзінаццаці, гадовыя дзеці выпаўняюць ролі артыстаў, у той час, як ня толькі, каб калі самі ігралі, а навет ніколі ня бачылі, як іграюць і ня мелі паняцьця аб якіх-небудзь спэктаклях, — а тут, самі сталіся артыстамі!...

Маленькая Магрэта і маленькі Саўка ігралі мо ня горш за вялікіх артыстаў.

„Жабрак“ — выпаўніў сваю ролю, як найлепей, хоць яго роль кароценькая.

Гэты спэктакль паказаў што ў крыштальнай сялянскай масе, ёсць здольнасьці да ўсяго, абы толькі была магчымасьць вучыцца і разьвівацца.

Публіка была здаволена і сардэчна вітала Саўку—вучня 11-ці гадоў — Сымона Куліну; Магрэту — вучаніцу 11-ці гадоў — Надзю Забаронак; і Жабрака — вуч. 13 гадоў — Мікалая Куліну.

Усе нецярпліва чакалі, калі адчыніцца заслона і пачнецца другая п'еса „Пасланец“.

Пасланцом быў той-жа самы вучань — Сымон Куліна, кухаркаю 10-ці гадовая вучаніца Ганна Абрамчык, лёкаем 11-ці гадовы вуч. Аляксандр Трэцяк, Панам той-жа самы, што і жабраком Міколай Куліна.

Усе чатыры маладыя артысты ігралі таксама добра і ў гэтуй п'есцы.

Усякаму хіба зразумела, што яны ня маглі сыграць так, як сыгралі-бы запраўдныя артысты але як дзеці, дык лепшага спадзевацца нельга.

Іх бацькі не маглі, проста нацешыцца: сьмяяліся і плакалі і хвалілі...

Потым былі дэклямацыі. Вучыцель школы прадэклямаваў верш Я. Коласа „Родны край“, а потым безперарыўным „біс“ быў вызваны прадэклямаваць „Пагоня“.

Вучаніца Надзя Забаронак дэклямавала „Цару неба і зямлі“ — Янкі Купалы і прадэклямавала так добра, з такім пачуцьцём, што ня верылася, каб гэта дзіця так дэклямавала.

Вучань Пётр Куліна дэкл. „Ворагам Беларушчыны“, ды так магутна і шчыра, што аж мурашкі бегалі па целе.

Вучаніца Ганна Абрамчык дэклям. „Даўно ўжо целам я хварэю і хвор душой“. Яе выступ, таксама даўся дзіву.

Нарэшце, хор вучняў, пад кіраўніцтвам вучыцеля, прапяяў „Марсэльезу“. Прысутныя усталі і ўсе памаглі пяяць, так што аж вокна ў салі дрыжэлі.

Папярэднія вучыцялі, жывучы ў гэннай школе пры шмат лепшых абставінах, ніколі не ціка-

віліся паставіць спэктакль, не зьвярнуўшы ўвагі, на тое, што ў вучняў ёсьць здольнасьці, толькі трэба іх разьвіваць. А новы вучыцель Я. Відук, зразумеў гэта і, дзякуй яму, вялікае дзякуй, ад бацькоў і усяго беларускага сялянства.

Адна перашкода, што гэтая школа не беларуская, бо родная мова выкладаецца толькі як прадмет, а ўсё навучаньне ідзе папольску і сядзіць у ёй польская вучыцелька.

Верабей.

### Выстрал... Сычавічы, Вялейск. пав.

„Няма воўку чым, дык лыкам“ — кажа прыказка, так і тут: 26 лютага, перад спэктаклям ў Сычавіцкай школе зайшлі у салю тры жаўнеры пагранічнае стражы і пачалі выймаць патроны з карабінаў. Два з іх скора вынялі патроны і паставілі стрэльбы ў куток, а трэйці, з дзьвемя палоскамі на пагонах, доўга карпаўся і калі дзятва яго акружыла, павярнуў дула ўверх і выстраліў.

Дзеці перапалохаліся і, ад жаху, іншыя пападалі на зямлю, а ён засьмяяўшыся і кажа:

— To nic, tylko prochem smierdzi...

Як відаць, гэты выстрал быў знарочны, каб перапужаць дзяцей і сапсаваць спэктакль, але дзеці, выслухаўшы развагу вучыцеля, трымаліся спакойна, і спэктакль адбыўся.

Явар Відук.

## Беларускае жыцьце.

### „Іліяда“ па беларуску.

Прафэсар Б. Тарашкевіч пераклажыў з грэцкай на беларускую мову першую песьню старажытнай грэцкай паэмы „Іліяда“ Гомэра.

### Новы школьны падручнік.

А. Луцкевіч пераклажыў па беларускую мову падручнік элемэнтарнай алгебры Кісялёва.

### Даклад аб беларускай паэзіі.

Рада расейскага літэратурна-артыстычнага гуртка ў Вільні рыхтуе пастанову вечера у памяць сталецьця нарадзін расейскага паэта Некрасава. На гэтым вечары, між іншым, п. Д. Бохан прачытае даклад „Беларуская паэзія і Янка Купала“.

### Беларуска-літоўскі калідор.

Расейская газэта „Руль“, якая выходзіць у Бэрліне, у № 391 за 28 лютага г. г. надрукавала карэспандэнцыю з Рэвэля (Эстонія). Гэтую карэспандэнцыю, дзеля яе цікавасьці, мы перадрукоўваем поўнасьцю.

„На працягу двух тыдняў камісарыят заграмічных спраў вядзе перагаворы з прадстаўнікамі беларускай народнай рэспублікі ў Коўне аб варунках прызнаньня савецкім урадам беларускай дэмакратычнай рэспублікі. У разе добрага вынiку перагавораў, савецкі урад паставіць на чаргу пытаньне аб перагледжаньні ўсходняй граніцы з Польшчаю з мэтаю пашырэньня „літоўска-беларускага калідору“.

### Аддзел Краевай Сувязі ў Стоўбцах.

У Стоўбцах адчыняны аддзел Краёвай Сувязі. Старшынёю аддзелу выбраны п. П. Калечыц, сэкрэтаром—п. Сьцяпан Санковіч і скарбнікам — п. Міхась Петрашэўскі.

### Лекцыя Б. Тарашкевіча.

У суботу 4-га сакавіка г. г. у салі беларускага драматычнага гуртка ў Вільні п. Б. Тарашкевіч прачытаў лекцыю на тэму: „пытаньне аб пачатку беларускай народнасьці ў сучаснай навуцы“. У сваей лекцыі п. Б. Тарашкевіч выказаў новыя погляды сучаснай навукі на пачаткавае разсяленьне інда-эўрапэйскіх народаў наагул, а славянскіх у асобнасьці.

### Цёплая бялізна для бежанцаў.

Цэнтральны Камітэт Краёвай Сувязі разаслаў у свае аддзелы сто камплектаў цёплай бялізны для раздачы бежанцам у раёнах Нясьвіскім Стаўпецкім і Лунінецкім.

### Тыдневы календарык.

| Праваслаўны: Чысла | Дні | ЛЮТЫ | Каталіцкі: Чысла | САКАВІК | Сонца: Уход г. м. | Сонца: Заход г. м. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 22 | А. | Знаход мошчаў с. м. | 7 | Тамаша з Аквіну | 6 36 | 5 46 |
| 23 | Ср. | См. Палікарпа | 8 | Яна | 6 34 | 5 48 |
| 24 | Ч. | Аб. гал. Іоанна Кс. | 9 | Пранцісі Рымл. | 6 32 | 5 50 |
| 25 | Пц. | Сьв. Тараса | 10 | † 40 муч., Віктара | 6 28 | 5 52 |
| 26 | Сб. | Сьв. Парфіра | 11 | † Канстантага в. | 6 26 | 5 54 |
| 27 | Н. | 2 Вял.п. сьв. Рыг. п. | 12 | 2 посту. Грыгора п. | 6 26 | 5 54 |
| 28 | Пн. | Прп. Васіля спав. | 13 | Крыстыны, Мікіпара | 6 26 | 5 56 |

Рэдактар-выдавец Я. Бэкіш.

Друкарня „ДРУК“, Субач 2.